

# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 400 Красавік 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50

## З ГІСТОРЫІ САКАВІКОВЫХ СЬВЯТКАВАНЬНЯЎ У ЗША

*(Урыўкі з дакладу др. Вітаўта Кіпеля на ўрачыстасьці ў Нью-Ёрку 4.IV.93)*

Першы ўдзел амэрыканскіх беларусаў у палітычным мітынгу, дзе былі выказаныя ідэялягічныя прынцыпы беларускае дзяржаўнасьці й непадзельнасьці беларускае тэрыторыі, задакумэнтаваны ў 1920 годзе ў горадзе Мінэапалісе ў штаце Мінэсота.

Праўда, ужо ў 1918 годзе, праз пару месяцаў па Ўсебеларускім Кангрэсе ў сьнежні 1917 году, у агляддзе палітычных падзеяў у бюлетэні Дзяржаўнага Дэпартаманту, адзначалася выказваньне Льва Троцкага аб прычыне разгону Ўсебеларускага Кангрэсу. Троцкі сказаў, што Ўсебеларускі Кангрэс, дэлегатамі якога ў бальшыні былі прадстаўнікі сялянства, пераймаў ініцыятыву палітычных праграмаў на Беларусі, а гэта ішло ўразрэз з бальшавіцкімі плянамі і таму бальшавікі Ўсебеларускі Кангрэс разагналі.

Адзначэньні-ж 25 Сакавіка грамадзтвам пачаліся ў Нью-Ёрку ў 1921 годзе, калі ў горадзе й ваколіцах паўсталі некалькі беларускіх клюбаў. Першае адзначэньне ў Нью-Ёрку ня было масавым — гэта быў хутчэй сымбалічны жэст — тым ня менш вельмі важны! Масавае-ж адзначэньне 25 Сакавіка, як Дня незалежнасьці Беларускае Дзяржаўнасьці, адбылося ў Чыкага ў 1924 годзе, калі туды пераехаў з Эўропы, на просьбу Рады БНР, былы прэм'ер Ураду БНР, знаны беларускі палітычны дзеяч Язэп Варонка. Сакавіковая ўрачыстасьць у Чыкага шырака рэклямавалася ў друку ды, фактычна, запачаткавала традыцыю, якая працягваецца і да цяперашняга часу. У амэрыканскіх адзначэньнях дня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі важна падкрэсьліць адну акалічнасьць: ад самага пачатку адзначэньня 25 Сакавіка амэрыканскія беларусы прыцягнулі да ўдзелу ў гэтых урачыстасьцях і амэрыканскіх палітыкаў: мэраў, губэрнатараў, кангрэсмэнаў, сэнатараў і прэзыдэнтаў. Трэба падкрэсьліць, што ўжо ў 1928 годзе, калі ўпяршыню беларуская дэлегацыя сустрэлася з кандыдатам у прэзыдэнты ад Дэмакратычнае партыі Альфрэдам Сьмітам, Сьміту быў пададзены мэмарыял, у якім казалася аб прынцыпах незалежнасьці БНР, аб Устаўных Граматах. У пазьнейшыя гады амэрыканскія прэзыдэнты ўжо вітаюць беларусаў з Днём Незалежнасьці беларускае дзяржавы. На сотнях старонак «Кангрэсавых Запісаў» (Congressional Record), задакумэнтаваныя падзеі на Беларусі 1917-18 гадоў ды дзейнасьць беларускае эміграцыі, улучна з малітвамі беларускіх сьвятароў у Кангрэсе. Гэта — выдатнае й вычарпальнае сьветчаньне аб дзейнасьці амэрыканскіх беларусаў для Беларускае Справы.

Апрача праводжаньня сьвяткаваньняў, амэрыканскія беларусы імкнуліся і дакумэнтаваць, дасьледаваць падзеі таго рэвалюцыйнага пэрыяду на Бацькаўшчыне. У Амэрыцы выдрукаваныя ўспаміны аб сакавіковых і пасакавіковых падзеях — гэта ўспаміны Язэпа Гладкага, Міхася Міцкевіча, дакумэнтацыя дыпляматычнае актыўнасьці дзеячоў БНР: доктара Івана Ермачэнкі, Радаслава Астроўскага, Васіля Захаркі. Дзякуючы дамаганьням беларускіх арганізацыяў, дзень 25 сакавіка ўвайшоў у шмат якія палітычныя календары Злучаных Штатаў. Беларускае насьвятленьне падзеяў 1917-18 гадоў на Бацькаўшчыне задакумэнтаванае ў дзесятках артыкулаў ды манаграфіяў.

Беларуская Амэрыка зрабіла шмат, каб Акт 25 Сакавіка стаўся ведамы ў краіне. Бязумоўна, гэтая блізу 70-гадовая традыцыя адзначэньня Сакавіка ў Злучаных Штатах будзе трываць і далей: працягваць яе будзе маладое беларуска-амэрыканскае пакаленьне ды новая хваля эміграцыі (а гэткая ўжо ёсьць!). Аднак, у адзначэньні Дня Незалежнасьці Беларусі, як угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, ад сёлета ёсьць і іншая прыкмета — гэтыя ўгодкі адзначаюцца ўжо адкрыта і на Бацькаўшчыне. Гэта — сапраўды навіна, якая дае надзею на будучыню. Паколькі пункт адлічэньня нашае навейшае палітычнае гісторыі як у эміграцыі, гэтак і на бацькаўшчыне цяпер супольны, можна спадзявацца — ды так яно й павінна быць — што і эміграцыя будзе цяпер у актыве будаваньня дэмакратычнае Беларусі.

Адраджэньне Дэмакратычнае Беларускае Народнае Рэспублікі — справа ўсяе Беларускае Нацыі!

---

### *ЛІСТЫ ЗЬ БЕЛАГА ДОМУ*

Сп. Язэп Арцюх, рэдактар англамоўнага «Беларускага Агляду», атрымаў ад Прэзыдэнта Біла Клінтана падзяку за ягоныя заўвагі аб замежнай палітыцы Злучаных Штатаў. «Мой Урад, — піша Прэзыдэнт Клінтан, — адданы справе абароны свабоды й падтрымваньня дэмакратыі ў сьвеце. Дэмакратыя ў іншых краінах ахоўвае нашыя канкрэтныя эканамічныя інтарэсы і нашу бясьпеку».

У лісьце да сп. Антона Шукелайця, старшыні БАЗА, з канцылярыі Прэзыдэнта Клінтана, сп-чна Марша Скот паясьніла, што Прэзыдэнт — удзячны за падтрымку й зацікаўленасьць — ня здолеў прыслаць прывітаньня дзеля вялікае занятасьці першымі месяцамі на сваім прэзыдэнцкім становішчы. «Прэзыдэнт дацэньвае Вашу зацікаўленасьць, — сказана ў лісьце, — і спадзяецца, што Вы падумаеце пра яго і ў будучыні. Найлепшыя пажаданьні Вам удала правесьці сьвяткаваньне».

## ПРАКЛЯМАЦЫЯ МЭРАМ ГОРАДУ НЬЮ-ЁРКУ, ДЭЙВІДАМ ДЫНКІНСАМ, ДНЯ БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*Office of the* **Mayor**
CITY OF NEW YORK



# Proclamation

WHEREAS: THE BELARUSAN AMERICAN COMMUNITY IS OBSERVING THE 75TH ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE BELARUS DEMOCRATIC REPUBLIC ON MARCH 25, 1918; AND

WHEREAS: BETWEEN 1890 AND 1920 MORE THAN 500,000 BELARUSANS IMMIGRATED TO THE UNITED STATES, LEAVING THEIR BEAUTIFUL HOMELAND TO SEEK NEW LIVES HERE; THEIR FIRST ORGANIZATION WAS FORMED IN 1920 ON PARK ROW ACROSS FROM CITY HALL PARK; AFTER WORLD WAR II ABOUT 50,000 ADDITIONAL IMMIGRANTS ARRIVED HERE, FLEEING OPPRESSION; TODAY MANY COMMUNITY ORGANIZATIONS ASSIST THEM AND PROVIDE MEETING PLACES AND CULTURAL ACTIVITIES; AND

WHEREAS: THE BELARUSAN AMERICAN COMMUNITY CONTRIBUTES TO THE VITALITY AND DIVERSITY OF OUR CITY AND SHARES ITS RICH HERITAGE WITH ALL NEW YORKERS; IT SUSTAINS THE SPIRIT OF A FREE BELARUS AND PRESERVES THE TREASURES OF THE LANGUAGE AND TRADITION; AND

WHEREAS: TODAY WE ESPECIALLY REMEMBER THAT BELARUS WAS DEVASTATED BY THE CHERNOBYL NUCLEAR DISASTER; SEVENTY PERCENT OF THE FALLOUT CONTAMINATED ONE-THIRD OF THE COUNTRY, AFFECTING 2.2 MILLION PEOPLE, INCLUDING MANY RELATIVES OF NEW YORKERS; WHILE MANY SCIENTISTS, PHYSICIANS AND OTHER NEW YORKERS RUSHED TO ASSESS THE DAMAGE AND SEEK SOLUTIONS, THE LONG RANGE EFFECTS WILL NOT BE KNOWN FOR YEARS,

NOW THEREFORE, I, DAVID N. DINKINS, MAYOR OF THE CITY OF NEW YORK, IN RECOGNITION OF THE MANY CONTRIBUTIONS MADE BY NEW YORKERS OF BELARUSAN HERITAGE TO THE DIVERSITY AND VITALITY OF OUR CITY, DO HEREBY PROCLAIM SUNDAY, MARCH 28, 1993 IN THE CITY OF NEW YORK AS

"BELARUSAN INDEPENDENCE DAY"



IN WITNESS WHEREOF I HAVE HEREUNTO SET MY HAND AND CAUSED THE SEAL OF THE CITY OF NEW YORK TO BE AFFIXED.

DAVID N. DINKINS
MAYOR

## ЧАТЫРЫСТА «БЕЛАРУСАЎ»

Выпускаючы ў сьвет 400-ты нумар газэты «Беларус», хочам падзякаваць усім нашым прадстаўнікам, падпішчыкам і ахвярадаўцам за супрацоўніцтва і грашовую падтрымку газэты. «Беларус» ня толькі інфармуе й дакумэнтуе, ён лучыць усіх нас, раскіданых, у адну грамаду, гуртуе й гартуе ў грамадзкай працы ды палітычнай дзейнасьці на карысьць Беларусі, дэмакратыі й амэрыканска-беларускага збліжэньня.

На старонках «Беларуса» застаюцца сьляды нашых нацыянальна-грамадзкіх надзеяў і намаганьняў, нашых здабыткаў і стратаў, нашай памяці пра Беларусь і патрэбы ейнага народу.

«Беларус» даходзіць у самыя аддаленыя мясьціны зямное кулі, куды доля закінула ці аднаго нашага суродзіча. А пачынаючы зь сёлетняга сакавіковага нумару (№ 399), 999 экзэмпляраў «Беларуса» друкуюцца ўжо і ў Менску. Газэта ўсё больш і больш пашыраецца ў Беларусі і па-за ёй, у тым ліку ў Прыбалтыцы і на Беласточчыне. Яна будзе таксама прадавацца ў менскіх кіёсках. «Беларус» інфармуе чытача аб тым, што дзе-б ні былі сыны й дочкі Беларусі, яны не пакідаюць думак аб краі свайго паходжаньня і аб ягоным далейшым лёсе. У ўсьведамленьні факту нашага духовага адзінства — закладзеная вялікая маральная сіла, што дапаможа нам выжыць, перамагчы ўсе цяжкасьці і выйсьці ў лепшае заўтра. У гэтай перамозе духа будзе і Ваш удзел, дарагія суайчыньнікі — Супрацоўнікі, Чытачы й Ахвярадаўцы — за што ад імя будучай Вольнай Дэмакратычнай Беларусі падзяка Вам і слава.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму сьвятарству і ўсім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

*«На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог. Яно было спрадвеку ў Бога. Усё празь Яго сталася, і безь Яго нічога ня сталася з таго, што сталася. У ім было жыцьцё, і жыцьцё было сьвятлом для людзей. І сьвятло сьвеціць у цемры, і цямнота яго не агарнула» (Ян 1:1-5).*

Дарагія Браты й Сёстры!

Перамога Госпада наша Ісуса Хрыста над сьмерцяй дае і нам усім веру ў перамогу. Госпад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне й жыцьцё» (Ян 11:25). Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — не апошняе слова. Перад Сваім укрыжаваньнем Госпад хадзіў паміж народам — кніжнікамі, фарысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. А сёньня мы бачым сілу славы ў Ягоным уваскрасеньні. Як магчыма словам выказаць, як розумам ахапіць значэньне сілы Божай? А добра ведаць значэньне яе. Гэта — сіла самаіснаваньня, сіла тварэньня, сіла любові, сіла самаахвярнасьці, сіла вытрываласьці, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (Ян 5:4). І праўды праз Хрыста і веру ў Яго Бог паслаў нам перамогу. Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы адзначаем падзеі ў нашай Сьвятой Беларусі, што закранаюць кожнага з нас беларусаў.

У іншых народаў у сьвяткаваньні народных сьвятаў бярэ ўдзел увесь народ, у тым ліку як сьвецкія, гэтак і рэлігійныя ўстановы. Але ў Беларусі, калі прыходзіць сьвята 25 Сакавіка, мы ня бачым чаго-небудзь падобнага. А чаму? Бо «найміт — ня пастыр, каму авечкі не свае» (Ян 10:12). Бо «Пастыр добры жыцьцё сваё аддае за авечкі» (Ян 10:11). Зусім правільна Ніл Гілевіч выказаўся, каб царква і народ у Беларусі гаварылі адною моваю — моваю зямлі беларускай. Толькі свая Аўтакефалія са сваёй беларускамоўнай ярархіяй прынясе адраджэньне веры Хрыстовай у душы беларуса, якое будзе ў поўнай меры супадаць з адраджэньнем беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасьці.

Служыць свайму народу — гэта служыць Богу. А каб належна служыць свайму народу, трэба мець веру ў Бога й верыць свайму народу. Але толькі словамі мы ня можам выявіць веру; сьв. ап. Якуб кажа: «Вера, калі ня мае ўчынкаў, мёртвая сама ў сабе» (Як. 2:17). Не ўцякайце-ж і не пакідайце Праваслаўнай Царквы, а будзьце вытрывалымі, настойлівымі ў сваіх дабрародных намаганьнях, каб Царква была свая й служыла свайму народу. Толькі свая аўтакефальная Царква будзе несьці адраджэньне веры Хрыстовай, што будзе супадаць з адраджэньнем народу. Напэўна знойдуцца і тыя, што будуць стаяць на перашкодзе, але нават сярод дванаццаці апосталаў знайшоўся адзін здраднік — Юда. «Сапраўды кажу вам, што адзін з вас здрадзіць Мяне» (Мц. 26:21), — сказаў Госпад вучням Сваім. І ўжо ўкрыжаваны Госпад усклікнуў: «Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў» (Мц. 27:46), і радаваліся тыя, што крычалі Пілату: "Вазьмі, вазьмі, укрыжуй Яго!» (Ян 19:15). Радаваліся з таго, што Хрыстос памёр.

Дарагія браты й сёстры, ці ня радаваліся тыя, што ўкрыжавалі нашую Сьвятую Беларусь? Ці раз мы чулі тых, што гучна прагалошвалі: «Белоруссіі нет, не было і не будет!». Калі жанчыны на золаку прыйшлі да магілы, дзе ляжала цела Госпадава, яны пабачылі анёла, які сказаў ім: «Яго няма тут, бо Ён уваскрос, як сказаў» (Мц. 28:6). Усьцешыліся апосталы, калі даведаліся, што Госпад уваскрос і разыйшліся радасныя словы «ХРЫСТОС УВАСКРОС!». Гэтаксама, калі прагалошана была Беларусь незалежнай, па ўсім краю прагучэлі радасныя словы «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» Хрыстос уваскрос, і жыве Сьвятая Беларусь, і ніякія пякельныя сілы не пераадалеюць.

Не пакідайце-ж Праваслаўнай Царквы, а будзьце вытрывалымі, настойлівымі ў сваіх дабрародных намаганьнях. Няхай кожны зь вераю і ў поўным перакананьні настойліва дзейнічае, каб нашыя шляхотныя спадзяваньні споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах уся Сьвятая Беларусь з удзячнасьцю Богу славіла уваскрослага Госпада й Ратаўніка нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё падарыў».

Мір Вам і любоў зь вераю ад Бога Айца і Госпада Ісуса Хрыста. Ласка з усімі Вамі, што нязьменна любіце Госпада нашага ўваскрослага Ісуса Хрыста.

ХРЫСТОС УВАСКРОС! — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!!!

Вялікдзень, 1993 г.
Таронта, Канада.

**Мітрап. МІКАЛАЙ**

## *МЯНЧАНЕ БЕЗ МЭДЫКАМЭНТАЎ*

«Як выявілася, сёньня ў аптэках гораду Менску адсутнічае больш як 60 працэнтаў лекаў першай неабходнасьці. Патрэбы мянчан у мэдыкамэнтах увогуле задаволены толькі на 30 працэнтаў. Ня лепшае становішча ў клініках гораду. Па зьвестках дэпутатаў, ёсьць ужо выпадкі сьмерці хворых з-за адсутнасьці патрэбных лекаў.» («Зьвязда», 16.III.93)

*Выдаўцом і Рэдкалегіі
газэты «Беларус» у Нью-Ёрку
З нагоды выхаду ў сьвет 400-га нумару газэты «Беларус»
віншую Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
і
Рэдкалегію «Беларуса»
і жадаю ім ды супрацоўнікам у дыяспары і на Бацькаўшчыне плённай будучыні!
У цяперашні час Адраджэньня Беларусі і станаўленьня ейнай дзяржаўнасьці ды незалежнасьці беларуская вольная прэса на бацькаўшчыне і за яе межамі мае вялікія заданьні.
Няжай-жа Бог прыспорыць Вам сілаў і вытрываласьці на доўгія гады.*

*2 красавіка 1993 г.* **К. Акула**

## СТАРШЫНЯ РАДЫ БНР У МЕНСКУ

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі др. Язэп Сажыч, які жыве ў Злучаных Штатах, узяў удзел у ўрачыстасьці адзначэньня 75-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, што адбылася ў Менску 25 сакавіка ў перапоўненай людзьмі залі Беларускай фільгармоніі. Выступленьне на гэтай урачыстасьці др. Сажыча, які прамаўляў пасьля Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча, было сустрэта вельмі цёпла. Там-жа, як напісалі ў адным прыватным лісьце зь Менску, «надзвычай паэтычнае, мастацкае выступленьне зрабіў Данчык Андрусышын». Шмат якія газэты зьмясьцілі інтэрв'ю з др. Сажычам і з Данчыкам.

У гутарцы з карэспандэнтам «Народнай газэты» Старшыня Рады БНР сказаў: «Магчыма мне лёс дазволіць дачакацца такога часу, калі я змагу здаць свой мандат беларускаму ўраду на бацькаўшчыне. Але яшчэ ня час. Мы чакаем, калі ў Беларусі Вярхоўная Рада будзе выбрана сапраўды дэмакратычным шляхам. Цяпер мы мусім наглядаць за тым, як пойдуць падзеі далей». (ГР 13/93)

## БНР І МАНДАТЫ

Апошнім часам ажыла горача абмяркоўваная ранейшымі гадамі тэма мандатаў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Цікавы матарыял да гэтай тэмы падаў часапіс «Спадчына» (№ 1/1993), зьмясьціўшы даклад Прэзыдэнта Рады БНР Пётры Крэчэўскага, прачытаны ў Беларускім Студэнцкім Клюбе ў Празе 16 студзеня 1926 году. У сваім дакладзе на тэму «Мандаты БНР» П. Крэчэўскі даў удакумэнтаваны агляд падзеяў вакол Бэрлінскае канфэрэнцыі 1925 году, на якой, некаторыя сябры Ўраду БНР на чале з Аляксандрам Цьвікевічам перадалі свае мандаты Ўраду БССР, ня маючы на гэта юрыдычнай асновы.

Свой даклад Прэзыдэнт Крэчэўскі закончыў гэткімі словамі:

«Не апраўдаўшыя народнага даверра рэалісты адыйшлі ў старану ці перайшлі ў варожы стан, а цьвёрды рамантызм ідэі незалежнасьці і яе дзяржаўных установаў жывець далей і будзе жыць, пакуль жыве сама ідэя».

## КЛЯШЧЫ

**А. Здрок**

*Ці-ж хто ня ведае Кляшча натуру?
Ён упіваецца ў чужую скуру
І смокча кроў свае ахвяры,
Пакуль здаволіцца, пачвара!
І сёньня — бачу я у скрусе —
На скуры нашай Беларусі
Сядзяць былых часоў Кляшчы,
Хоць час-часом яна й крычыць.
Дакуль жа будзе беларус
Цярпець былых Кляшчоў хаўрус?
Няўжо ні Сакавік, ні Ліпень
Не адвучылі ныць і хліпаць?
О беларус, мой родны браце,
Загспадар нарэшце ў хаце,
Зь сябе няздару не рабі,
А ўсіх Кляшчоў далоў зграбі!*

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

**ўрачыстага сходу ў Нью-Брансьвіку 28 сакавіка 1993 году, прысьвечанага 75-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Мы, удзельнікі сьвяткаваньня 75-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, прымаем наступную рэзалюцыю:

1. Мы падтрымваем ідэю Беларускае Народнае Рэспублікі як мэту, да дасягненьня якое заклікаем усіх сваіх суродзічаў.
2. Мы дэкляруем усемагчымае спрыяньне беларускаму нацыянальнаму адраджэньню, якое адбываецца цяпер на Беларусі.
3. Мы заклікаем усіх беларусаў сьвету да аб'яднаньня ў імя незалежнае дэмакратычнае Беларускае Дзяржавы.
4. Мы выказваем наважанасьць і далей працаваць на адбудову эканомікі Беларусі ды пашырэньне гандлёвых сувязяў Беларусі з вонкавым сьветам.
5. Мы асуджаем Камуністычную партыю Беларусі, якая, незважаючы на ўсе свае крывавыя злачынствы ў дачыненьні да беларускага народу, прэтэндуе цяпер на адначаньне свае ўлады ў Рэспубліцы Беларусь.
6. Мы асуджаем усякія спробы розных асоб і арганізацыяў выкарыстоўваць рэлігійныя настроі ў беларускім жыхарстве на шкоду вольнай дэмакратычнай Беларусі, а на карысьць суседнім дзяржавам.

Нью-Брансьвік, 28 сакавіка 1993 г.

## «ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ»
**Праграма спонсарства**

Ведамая амэрыканская дабрадзейная арганізацыя Сітыгоўп Інтэрнашнал, заснавальнікамі і кіраўнікамі якой зьяўляюцца сьвятар Пол Мор і сп-ня Шэран Мор, распрацавала праграму мэдычна-харчовай апекі над дзецьміахвярамі чарнобыльскае радыяцыі ў Беларусі. Ужо каля 70 амэрыканскіх сем'яў згадзіліся ахвяроўваць па 22 даляры на месяц, за якія хвораму дзіцяці забясьпечваецца чыстая ежа, вітаміны ды іншыя харчавальныя дадаткі.

Апякуны, які згаджаецца ўзяць на сябе спонсарства, даецца імя й прозьвішча, фатаграфія і запіс голасу падапечнага дзіцяці, а таксама час ад часу інфармацыя аб стане ягонага здароўя.

Калі хто хоча мець дакладнейшую інфармацыю пра гэтую высакародную праграму, трэба зьвярнуцца да сп-чны Нэнсы Энгельгардт на нумар тэлефону (914) 676-4400, або напісаць на адрас:

Citihope
P.O. Box 38
Andes, N.Y. 13731

# 75-ГОДЗЬДЗЕ БНР

У гэтым нумары «Беларуса» зьмешчаная толькі частка рэпартажоў пра сакавіковыя ўрачыстасьці. Рэшту паведамленьняў прачытаеце ў наступным нумары.

## НЬЮ-ЁРК — НЬЮ-ДЖЭРЗІ

Урачыстасьць адзначэньня 75-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі адбылася ў нядзелю 28-га сакавіка. Пасьля літургіі й малебну, адслужаных а. Васілём Андрэюком у царкве Жыровіцкае Маці Божае (павялічаным хорам кіраваў рэгент Генадзь Дубяга малодшы), у вялікай залі гатэлю Гаят-Рыджэнсы ў Нью-Бранcьвіку прайшла акадэмія. У фае гатэлю, ля ўваходу ў залю, былі наладжаныя: прыгожая мастацкая выстаўка (стараньнямі сп-няў Галіны Русак і Юлі Андрусышынай), фатавыстаўка (працы Анатоля Кляшчука), стэнды зь беларускімі друкамі, сувэнірамі, мастацкімі вырабамі. Усё гэта ўпрыгожвала сьвята й надавала ўрачыстага настрою.

Акадэмія пачалася малітвай, якую сказаў а. Васіль. Сп. Коля Рамана сказаў прырачэньне сьцягу. Старшыня сьвяткавальнага камітэту сп. Юрка Азарка, адкрываючы ўрачыстасьць, адзначыў усебеларускіх характар сёлетняга сьвяткаваньня — упяршыню ўгодкі БНР адкрыта адзначаюцца і на Бацькаўшчыне.

Праклямацыі дня Беларускай Незалежнасьці ў Амэрыцы і прывітаньні ад прадстаўнікоў амэрыканскіх уладаў прачыталі Раіна Сямёнава, Урсуля Шульжыцкая, Павал Рамана і Антон Бартуль. Дзень 25 сакавіка быў абвешчаны Днём Беларускай Незалежнасьці губэрнатарам штату Нью-Джэрзі Джымам Флёрыё і мэрам гораду Нью-Ёрку Дэйвідам Дынкінсам. Прывітальнае пасланьне ўдзельнікам сьвята прыслалі Сэнатары Біл Брадлі і Дэніс Дэкансыні.

З прамовамі на сьвяткаваньні выступілі заступнік Старшыні Рады БНР др. Барыс Рагуля, Старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Вера Запруднік, Пасол Рэспублікі Беларусь пры ААН Генадзь Бураўкін, Консул РБ у Нью-Ёрку Леанід Каравайка, Старшыня БАЗА Антон Шукелайць, прадстаўніца ад нацыянальна сьвядомай інтэлігенцыі ў Беларусі Тацьцяна Гаранская.

Сп. Аляксандар Сільвановіч паінфармаваў прысутных аб апякунскай праграме амэрыканскай арганізацыі Сітыгоўп над беларускімі хворымі ад чарнобыльскай радыяцыі дзецьмі.

Сп. Шукелайць заклікаў удзельнікаў урачыстасьці скласьці ахвяру на выдавецкі фонд газэты «Беларус» (было сабрана больш за тысячу даляраў).

У мастацкай частцы праграмы свае вершы прачыталі Сяржук Сокалаў-Воюш і Тацьцяна Гаранская. Фальклёрны ансамбль «Скарыначка» — Валеры Окунь, Мая Калячка й Андрэй Ягніч — выканаў колькі народных песьняў і прыпевак.

Аклямацыяй была прынятая рэзалюцыя сходу (гл. на ст. 2-й).

Урачыстасьць скончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

На пакрацьцё коштаў, зьвязаных са сьвяткаваньнем 75-х угодкаў БНР, склалі грашовыя ахвяры наступныя асобы: др. Ул. Набагез — 100 дал.; па 75 даляраў ахвяравалі: Янка Азарка, Юрка Азарка, Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпель, Леанід Норык, Мікола Абрамчык, Адольф Субота, Браніслаў Даніловіч, Кастусь і Марыя Верабей, Юрка Кіпель, Пётр Пікулік, Сяргей Карніловіч; Міхась Рагуля — 60 дал.; па 50 дал. ахвяравалі Уладзімер Русак, Лявон Трусэвіч, Аляксандар Міцкевіч, Віктар Тур, а таксама ньюёркскі аддзел БАЗА; Віталі Кажан — 40 дал.; Раіса Галяк — 30 дал.; Сымон і Ніна Дудар — 25 дал.; Міхась Сенька і М. Сьнежка — па 20 дал.; Юрка Касьцюкевіч і А. Яновіч — па 10 дал. Усім ахвярадаўцам сьвяткавальны камітэт выказвае шчырую падзяку.

### Др. БАРЫС РАГУЛЯ
**Заступнік Старшыні Рады БНР**

Я цешуся тым, што маю гонар і прыемнасьць павіншаваць вас сёньня зь вялікім сьвятам 75-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Нашыя продкі вельмі добра прадумалі, абвяшчаючы незалежнасьць Беларусі. Тое, што яны палажылі ў аснову Акту 25 Сакавіка, ёсьць асновай дэмакратычнае дзяржавы. Многія мае знаёмыя з Рэспублікі Беларусь казалі: «Вы — дыназаўры. Гэтая ваша Грамата старая». Амэрыканская Грамата дзьвесьце год пражыла і сягоньня амэрыканская Канстытуцыя становіцца, магчыма, прыкладам для іншых народаў. І вось гэтыя Граматы нашы, наша Канстытуцыя, — гэта аснова нашае дзяржавы, нашай будучай дзяржавы.

Сёньня прыемна бачыць бел-чырвона-белы сьцяг і Поганю на беларускіх дзяржаўных дамах. Але мы мусім сьцьвердзіць факт, што гэтая дзяржава, Рэспубліка Беларусь, нашай дзяржавай яшчэ ня ёсьць.

Мы, магчыма, глядзім на Беларусь сёньня праз ружовыя акуляры, мы хочам яе бачыць такой, якою мы яе вынасілі тут на працягу пяцідзесяці гадоў, і хацелі-б, каб яна такой была. Такая яна ня ёсьць, хоць мы маем надзею, што тыя ідэалы, якія былі заложаны творцамі Акту 25 Сакавіка, ужыцьцёвяцца і наша Рэспубліка Беларусь стане запраўднай незалежнай дэмакратычнай дзяржавай.

Так доўга як няма вольных дэмакратычных выбараў у Беларусі, так доўга астаецца Вярхоўны Савет Вярхоўным Саветам БССР, які для нас мала мае перакананьня. Той факт, што яны не дазваляюць прыватызацыі, якая сталася-б асноўным фактарам растучай дзяржавы; той факт, што яны не ўзялі пад увагу галасоў паўмільёна выбаршчыкаў, што дамагаліся правядзеньня рэфэрэндуму; той факт, што яны сягоньня хочуць паставіць расейскую мову, як мову дзяржаўную, супраць чаго мы катэгарычна пратэстуем — сьветчаць, што гэтая дзяржава, Рэспубліка Беларусь, ня ёсьць той рэспублікай, якой мы хочам яе бачыць.

Наша становішча да двумоўя. Я вам падам цытату з артыкулу прафэсара Міколы Крукоўскага ў газэце «Зьвязда». Ён вельмі добра сказаў, і гэты погляд мы падтрымоўваем: «Уводзіць зараз статус дзяржаўнасьці для расейскай мовы было-б трагічнай памылкай, якая няўхільна прывядзе ў пэрспэктыве ня толькі да гібелі нацыянальнае культуры, але і да гібелі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь. У цэлым статус расейскай мовы можа адыграць у нашых варунках ролю Траянскага каня і скасуе ўсе нашыя шансы на адраджэньне».

Я думаю, мы поўнасьцяй з такім паглядам згаджаемся.

Другі факт — прызнаньне законнасьці Камуністычнай партыі. Гэта сапраўды ганьба перад заходнім сьветам. Камуністычная партыя Беларусі ня была беларускай партыяй. Камуністычная партыя Беларусі была галінай і выканацаўцам савецкай Камуністычнай партыі. За праступствы, якія былі зробленыя на Беларусі, адказвае Камуністычная партыя. Немцы прынялі калектыўную адказнасьць за праступствы, якія яны зрабілі ў часе вайны. Хто прыме калектыўную адказнасьць на Беларусі за Курапаты? Савецкі Саюз прыняў адказнасьць за Катынь. Для нас Курапаты — тое, што для гэбрэяў Аўшвіц. Гэбрэі не дазволілі, каб сьвет забыўся аб тым, што сталася ў Аўшвіцы. Для нас Аўшвіц — гэта Курапаты. І калі мы хочам дамагацца сягоньня разглежданьня гэтай справы, дык не таму, каб помсты шукаць, не таму, каб вышукваць тых, што наганамі стралялі ў патыліцу, і якія сёньня ціхенька сядзяць, не. Мы хочам, каб нашы дзеці, нашы ўнукі й праўнукі знаці: Курапаты — гэта вынік таталітарнай сыстэмы, Курапаты — гэта вынік страты незалежнасьці, Курапаты — гэта вынік нялюдзкіх адносін да беларускага народу. Гэта — наш Аўшвіц. Магчыма, некалі мы будзем маліцца там і ўспамінаць і дзякаваць Богу за тое, што наша Бацькаўшчына сталася незалежнай дзяржавай.

**Я хачу сёньня запрапанаваць — і маю надзею, што нам удасца зьвярнуцца да Аб'еднаных Нацыяў — каб была створаная Міжнародная камісія дасьледаваньня праступстваў на Беларусі, зробленых Камуністычнай партыяй.**

**Канчаючы свае слова, я хачу папрасіць усіх вас шчыра аднесьціся да нашай будучай дзяржавы, памагчы ёй сягоньня, чым можам. Беларускі народ патрабуе нашае дапамогі. Мы гатовыя памагаць і будзем чакаць на той мамэнт, калі прыйдуць новыя вольныя дэмакратычныя выбары, і наша дзяржава стане запраўды незалежнай.**

Жыве Беларусь!

Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

### ВЕРА ЗАПРУДНІК
**Старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі**
*(пераклад з ангельскае)*

Паважаныя Спадарыні й Спадары! Дарагія Сябры!

Сёлетнія ўгодкі 25 Сакавіка адбываюцца ў абставінах, што сьветчаць аб росьце сілы духа свабоды ў Беларусі. Упяршыню ў паваенным пэрыядзе 25 Сакавіка сьвяткуецца ў Беларусі адкрыта. Сярод нас сёньня знаходзіцца шаноўны госьць зь Менску, сябра Беларускага парлямэнту, сп. Юрась Беленькі, які быў мінулае нядзелі ўдзельнікам у Менску шэсьця на адзначэньне 75-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Ініцыятар і рухавік адзначэньня Дня Незалежнасьці Беларусі — Беларускі Народны Фронт. Значэньне сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Менску тым большае, што ў ім узялі ўдзел на запросіны Беларускага Народнага Фронту др. Язэп Сажыч, Прэзыдэнт Рады БНР, Вячаслаў Станкевіч, дырэктар Беларускае праграмы радыё «Свабода», і Багдан Андрусышын (Данчык), мюнхэнскі беларускі карэспандэнт радыё «Свабода».

Факт удзелу прадстаўнікоў беларускай эміграцыі ў сьвяткаваньні ў Менску ўгодкаў 25 Сакавіка глыбака сымбалічны. Ён сымбалізуе рост адзінства беларускага народу, узмацненьне цэласнасьці беларускай нацыі і цясьнейшае супрацоўніцтва ў абароне нашай свабоды й волі.

Аднак трэба глядзець далей за сымбалізм і гаварыць таксама аб практычнасьці, бо жыцьцё — гэта шмат больш, чымся сьвяткаваньні. Рэчаіснасьць сёньня на Беларусі цяжкая й жорсткая, надзеі кволыя.

Штадня мы чытаем у газэтах і бачым на тэлебачаньні або чуем па радыё пра змаганьне, што адбываецца цяпер па краінах былога Савецкага Саюзу, пра вялізарнейшыя перашкоды як матарыяльныя, гэтак і духовыя, якія людзям даводзіцца перамагаць на шляху да лепшага жыцьця. Ці ёсьць у гэтых змрочных паведамленьнях нейкі канкрэтны знак для нас? Думаецца, што такое пытаньне зусім на месцы на гэткім сьвяткаваньні, як наша сёньня.

Я сёньня пытаюся ў сябе: Як выглядае цяпер жыцьцё маладое асобы ў Беларусі? Якія ў такое асобы шансы на добрую асьвету, прыстойную працу? Якія даступныя ёй тавары й паслугі, лекарская апека, магчымасьці падарожнічаньня, самавыяўленьня й самапашаны, і г.д., і г.д.? Адказы на гэткія пытаньні тымчасам, на жаль, балюча адмоўныя і ўсё больш трывожныя.

Вось чаму мы мусім зыходзіцца разам пры гэткіх нагодах як сёньняшняя, каб ацаніць сытуацыю, у якой знаходзіцца беларускі народ, каб стаць перад суровай рэальнасьцяй і яшчэ раз аднавіць сваю адданасьць справе свабоды й незалежнасьці Беларусі. Як сама прырода, дух незалежнасьці вымагае абнаўленьня і ўзмацненьня. У нашым раскіданым штадзённым быцьце мы неяк трацім цэласьць абраза́. А гэты абраз прыгожы й натхняльны, як я гэта магу сказаць тут, гледзячы на ўсіх вас у гэтай залі. Вы ўсе тут — жывы й зыркі довад таго, што Жыве Беларусь.

**Сярод нас ёсьць людзі, дабрародныя**

*(Працяг на 4-й ст.)*

## СЭНАТАР ДЭНІС ДЭКАНСЫНІ

**Старшыня Камісіі па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе.**

*(Прывітаньне; пераклад з ангельскае)*

У гэты важны ў беларускай гісторыі дзень — 75-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Менску ў 1918 годзе — я хацеў-бы выказаць беларускаму народу свае найлепшае пажаданьне ў ягоным зацяжным змаганьні за дэмакратыю, правы чалавека й дабрабыт для свае краіны.

Як Старшыня Камісіі па Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе, я праз гады сачыў з падзіўленьнем абарону беларусамі сваіх правоў і нацыянальнага быту ў абліччы вялікіх перашкодаў. Беларускі народ заўсёды мужна стаяў перад цяжкасьцямі, як пра гэта сьветчыць і прыклад з палітычным вязьнем Міхалам Кукабакам, і мірныя дэманстранты ў іхным шэсьці супраць палітычных дубінак у Менску ў кастрычніку 1988 году, і ўвесь беларускі народ у аблічы няспынных вынікаў чарнобыльскае катастрофы. Беларусы, бяссумлеўна, дадуць рады і новым выпрабаваньням, што чакаюць іх.

Цяпер насталі бурныя часы ў краёх былога Савецкага Саюзу. Дзівугодна, што Беларусь ад часу здабыцьця незалежнасьці сталася аблокам супакою ў моры забурэньняў. Беларусы — людзі працавітыя, талерантныя і мірныя; сапраўды, гэта народ, які з годнасьцяй пастанавіў адмовіцца ад належаньня да ядзернага клюбу. Але грамадзкі супакой — зьява сама ў сабе дадатная — не замяняе сабой канстытуцыйнага ўраду, дэмакратычна абранага кіраўніцтва і прававога ладу. У 1992 годзе беларусы сказалі «так» рэфэрэндуму аб сваім будучым урадзе. На жаль, рэфэрэндум быў адкінуты. Старыя спосабы і старое мысьленьне ўсё яшчэ цьвёрда ўкарэненыя ў некаторых месцах.

Гэтымі тыднямі бальшыня ўвагі сьвету засярэджаная на ўсходнім суседзе Беларусі — Расеі, і, пэўна-ж, дзеля важкое прычыны. Але, незважаючы на змаганьне ў Маскве і ягоныя вынікі, я, як старшыня Камісіі па Бясьпецы і Супрацоўніцтве ў Эўропе, хачу сказаць, што мы будзем уважліва сачыць за падзеямі ў Беларусі і душою будзем зь беларускім народам у ягоных **сьвяткаваньнях у Злучаных Штатах, на Беларусі і па цэлым сьвеце.**

# 75-ГОДЗЬДЗЕ БНР

*(Працяг з 3-й ст.)*

ўчынкі якіх даводзяць, што дух Беларускае Незалежнасьці дзейсны ня толькі ў дзень 25 сакавіка, але што ён штадня ўдыхае надзею на Беларусі ў тых, хто конча патрабуе гэткае надзеі. Шмат хто з вас чытаў у газэце «Беларус» пра наведаньне летась Беларусі Яго Высакадастойнасьцяй Мітрапалітам БАПЦ Мікалаем ды спсп. Васілём Русаком і Міколам Ганьком; пра нядаўнае падарожжа ў Менск спадарства Аляксандра й Ніны Сільвановічаў, якія супраўаджалі вялікі груз гуманітарнай дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі. Мы высока цэнім дабрародныя й самааданыя намаганьні сьвятара Пола Мора і ягонае сям'і ў справе гуманітарнай дапамогі Беларусі і людзей такіх, як сп-ня Вера Бартуль, якія дапамагаюць дастойнаму Полу Мору ў ягонай працы. Мы ўдзячныя сп. Віталю Кажану, Скарбніку Рады БНР, які штагоду намагаецца папоўніць акцыяй збору ахвяраў на «Дар Сакавіка» фонд Рады БНР, каб Рада магла праводзіць сваю палітычную працу. Мы ведаем (і некаторыя з нас падтрымалі ўжо) выдатную дзейнасьць Беларускага Фонду «Адраджэньне» пад старшынствам сп. Аляксандра Сільвановіча. Ёсьць шмат іншых прыгожых прыкладаў зь беларуска-амэрыканскіх сем'яў у Кліўлендзе, Саўт-Рывэры, Чыкага, Нью-Брансьвіку, Нью-Ёрку і па цэлай Амэрыцы, якія прыймаюць у сваіх дамах людзей зь Беларусі, што прыяжджаюць сюды па бізнэсаўскіх, культурных або палітычных справах. З усяго гэтага і складаецца тое, што мы завём Беларускім Адраджэньнем. Беларуская нацыя зрастаецца ізноў у адно цела, мацуецца і функцыянуе як адзін жывы арганізм, шанцы якога выжыць і выйсьці зь цяперашняга крызісу залежаць перш-наперш ад нашага адзінства і нашае зьнітаванасьці.

Мы мусім ганарыцца тым, што мы сёньня — частка працэсу ўваскрошаньня Беларусі. Калі быў калі-небудзь выпадак, што тварылася гісторыя і чалавек мог браць удзел у яе тварэньні, дык гэта сёньня. Таму няма дзіва, што шмат хто з нас нецярпліва дачэквацца лета, каб паехаць на Беларусь ды ўзяць там удзел у розных культурных, навуковых або палітычных мерапрыемствах. Пэрыяд чаканьня на такія нагоды скончыўся, настаў пэрыяд дзеяньня, каб пачалі ужыццяўлядца нашыя перакананьні й лятуценьні. А найлепшы спосаб дзеяньня — гэта, па-першае, цьвёрда верыць, і, другое, шчодра дарыць — моцна верыць у права беларускага народу быць свабодным, ды шчодра дарыць маральнае і, о так, таксама грашовае, падтрыманьне. Як сьвятары нам часта нагадваюць: вера бяз учынкаў — мёртвая. А найбольш эфэктыўны ўчынак у нашых абставінах у дачыненьні да беларускае нацыянальнае справы, гэта матарыяльная дапамога, фінансавая шчодрасьць. Нам, амэрыканцам, якія спарадзідзілі выраз «Грошы гавораць», павінна быць ня цяжка зразумець, што грошы таксама змагаюцца, вызваляюць і будуюць. Беларусь сёньня змагаецца, каб выжыць, яна роспачна патрабуе дапамогі ў намаганьнях выбрацца з-пад грузу нядаўнае мінуўшчыны, каб пабудаваць новы Дом Свабоды й Дэмакратыі.

Наш сьвятарны абавязак дапамагчы гэтай краіне, адкуль паходзяць нашыя бацькі, дасягнуць удачы ў ейным гістарычным намаганьні. Новая беларуская дэмакратычная дзяржава, Рэспубліка Беларусь, будзе стаяць некалі, як велічны й сьветлы помнік таксама й нашае празорлівасьці, самаахвярнасьці ды шчодрасьці духа.

Жыве ідэя Беларускай Народнай Рэспублікі!

Жыве Беларусь!

**ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН**
**Пасол Рэспублікі Беларусь пры ААН**

Шаноўная Грамада! Дарагія Суайчыньнікі! Паважаныя Гаспадары й Госьці сёньняшняй урачыстасьці!

У выдатных гістарычных дат ёсьць ня толькі вялікі палітычны, але глыбокі паэтычны й сымбалічны сэнс.

Як вы памятаеце, Трэцяя Ўстаўная Грамата была складзена рупліўцамі беларускай дзяржаўнасьці ноччу 24-га сакавіка, а падпісаная раніцай 25-га сакавіка. І вось гэтая раніца і цяпер цягнецца. Як гэта ні радасна і ў той-жа час як гэта ні горка, дня сапраўднага яшчэ няма. Ён павінен прыйсьці, і павілася надзея, што ён бязумоўна на нашай зямлі будзе.

Я шчыра радуюся, што апошнім часам дэмакратыя прыйшла на нашу горкую спакутаваную зямлю — хай нясьмела, але ступіла ў той попел, які пакінула пасьля сябе Другая сусьветная вайна, які абтрэсла з чорнага неба чарнобыльская бяда.

Мы вось даведаліся аб тым, што ў Менску прайшла ўрачыстасьць, прысьвечаная 75-м угодкам 25 Сакавіка. Гэта падзея гістарычная. Я спадзяюся, што летам адбудзецца яшчэ адна слаўная гістарычная падзея: зьедуцца беларусы з усяго сьвету, каб пакланіцца сваёй роднай земельцы, каб адзін аднаго прывітаць і падумаць разам, што можна зрабіць для роднага народу, для Бацькаўшчыны, каб над ёю навекі заняўся сьветлы вольны Дзень.

Бог нам даў наш кавалачак зямлі — той, які называецца Беларусь. Паэты і філосафы кажуць, што краіна жыве да таго часу, пакуль жыве ў душы хаця-б аднаго свайго грамадзяніна. Але ўсё-такі яна павінна жыць на той зямлі перш за ўсё, якую беларусам падарыў Бог. І я веру, што ўсе мы, які-б лёс у нас ні быў, якія-б мы ні былі сваімі характарамі і нават палітычнымі нейкімі сымпатыямі, але дзеля роднай Беларусі мы зробім усё, што ў нашых сілах.

Жыве Беларусь!

**ЛЯВОН КАРАВАЙКА**
**Консуль Рэспублікі Беларусь у Нью-Ёрку**

Шаноўная Грамада!

Я хачу прывітаць Вас ад сябе і ад тых, хто працуе ў пасольстве ў Вашынгтоне. Дзякаваць Богу, сёньня мы ўжо можам прачытаць на вось гэтых паперках: «Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі». Я памятаю той час, калі ў 1990 годзе — мне давялося тады працаваць у пасольстве Савецкага Саюзу ў Варшаве — зьявіўся ў нас новы міністар, Пётр Краўчанка, і ён даручыў мне паехаць на Беласточчыну і пацікавіцца там, ці гатовы мы на Беласточчыне адкрываць першую беларускую консульскую ўстанову. Розныя былі погляды на гэтую справу — адны хацелі, другія не хацелі і г.д. Але так здарылася, што сёньня мы ўжо гаворым ня толькі пра консульства ў Беластоку, а мы ўжо маем пасольства ў Варшаве, консульства ў Гданьску. Я ўжо не кажу пра тое, што мы маем пасольствы ў многіх краінах — можна сказаць для рэспублікі, «у многіх» — таму, што ёсьць і ў Злучаных Штатах, і ў Германіі, і ў Польшчы, і маем мы сваіх паслоў і ў Парыжы, і ў Вене, і ў Жэнэве, і ў Тэль-Авіве.

А цяпер дазвольце мне зачытаць прывітаньне ад Сяргея Мартынава, Часовага паверанага ў справах Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах:

Шаноўная Грамада! Дарагія Суайчыньнікі!

Шчыра вітаю Вас зь 75-мі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка, які абвясьціў незалежнасьць Беларусі. Шмат часу мінула з тае пары, шмат пакут перанесла наша Бацькаўшчына.

Шлях, пачаты ў 1918 годзе да новай якасьці нашай дзяржавы, да Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі 1990 году быў доўгі.

Зараз родная Беларусь — на сьвітанку іншага дня. Але новае заўсёды нараджваецца ў цяжкасьцях. Да сталай незалежнасьці, да сапраўднага нацыянальнага адраджэньня, да набыцьця пачэснага статусу ў міжнародным супольніцтве трэба прыкласьці яшчэ шмат намаганьняў, пераадолець вялікія перашкоды.

Спадзяюся, што нашыя суайчыньнікі, беларусы Амэрыкі, будуць разам з Бацькаўшчынай у гэтай сьвятой справе.

Прыкметнай адзнакай у імкненьні да адраджэньня супольнасьці ўсіх беларускіх людзей — тых, што жывуць на Радзіме, і тых, каго няпросты лёс закінуў далёка ад яе межаў — павінна стаць сустрэча беларусаў усяго сьвету ў Мінску 8-10 ліпеня 1993 году.

Як сказана ў Бібліі: «Ёсьць час раскідваць камяні і ёсьць час зьбіраць камяні». Насьпеў час збору і яднаньня і для беларусаў.

Я ўпэўнены, што за сьвітанкам ідзе для ўзьяднанага і вольнага беларускага народу вялікі і сьветлы Дзень.

Жыве Беларусь!

**АНТОН ШУКЕЛАЙЦЬ**
**Старшыня**
**Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

Дастойныя госьці! Вельмі Паважаныя Спадарыні й Спадары!

Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вітае вас, вашыя арганізацыі, іхных сяброў з нагоды 75-х угодкаў абвешчаньня Актам 25 Сакавіка 1918 году Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Дык хай-жа ўрачысты ўспамін аб тых днёх найвышэйшага ўзьлёту беларускага духу на шляху нашага адраджэньня будзе стымулам да далейшай ахвярнай працы дзеля ўжыцьцяўленьня тых дэмакратычных ідэяў, якія Акт 25 Сакавіка праклямаваў.

Сёлета першы раз, хіба, пасьля страты незалежнасьці ў 1920 годзе беларускія дэмакратычныя арганізацыі на Беларусі адзначаюць угодкі Акту 25 Сакавіка, адзначаюць урачыста ў Менску і адзначаюць ўрачыста ў Вільні. Разам з гэтымі ўгодкамі на Бацькаўшчыне ўшаноўваюць адначасна і памяць пра двух дзеячоў, якія ў найбольшай меры спрычыніліся да гэтага гістарычнага Акту, а гэта — Антона Луцкевіча, які ўнёс гэтую прапанову, калі ўначы з 24-га на 25-га сакавіка абмяркоўвалася пытаньне незалежнасьці, і ягонага брата Івана, які першы выступіў у падтрымку. У сёлетнім сьвяткаваньні ў Менску на адным з дамоў будзе прыбіта таблiца ў іх гонар, а ў Вільні будзе адкрыты помнік на могілках Росы. Гэты помнік будзе напамінаць нам таксама і аб тым, што Антона Луцкевіча камуністы арыштавалі ў 1939 годзе, калі перадавалі Вільню тады яшчэ фашыстоўскай Літве, і ад таго часу, вестак аб ім няма; няма чалавека, які-б сядзеў зь ім у турме і няма чалавека, які-б быў разам зь ім на выганьні. Выглядае, што Антон Луцкевіч адразу быў расстраляны, магчыма, у Вялейцы або ў Менску, знайшоў сваё месца ў Курапатах. Мы на эміграцыі ў гэтым юбілейным годзе знойдзем нагоду, каб належна адзначыць памяць гэтых двух заслужаных для беларускай справы людзей. А покуль што няхай годным будзе ўшанаваць іхную памяць хвілінай маўчаньня...

Спадары старшыні беларускіх арганізацыяў прасілі мяне, каб гэтым разам з нагоды ўгодкаў 25 Сакавіка сказаць, а што-ж мы, эміграцыя, робім для беларускай справы. Дык вось-жа ў гэтым годзе, як і кожнага году, Галоўная Ўправа БАЗА прыгатавала спэцыяльныя лісты да прэзыдэнта Злучаных Штатаў, да губэрнатараў (там, дзе жыве вялікая колькасьць беларусаў), да ўсіх сэнатараў, да кангрэсмэнаў, у якіх інфармуе аб палітычным палажэньні на Беларусі, а так-жа просіць дапамагчы Беларусі ў пракладаньні шляху да дэмакратызацыі краіны і ўладжаньня вольнага рынку.

Мэры гарадоў у адказ на нашыя лісты — там, дзе жывуць беларусы і ёсьць беларускія арганізацыі — абвяшчаюць беларускім днём дзень 25 сакавіка. Апрача гэтага, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне прымае актыўны ўдзел ува ўсіх акцыях, якія адбываюцца на Беларусі дзеля дэмакратызацыі краіны. У гэтым годзе ад імя БАЗА ў сьвяткаваньнях на Бацькаўшчыне прымаюць удзел двух нашых прадстаўнікоў, гэта сп. Вячаслаў Станкевіч, былы старшыня БАЗА, і ведамы наш сьпявак, Багдан Андрусышын. Яны прымуць удзел ад імя БАЗы ўва ўсіх імпрэзах у Менску і ў Вільні.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, як заўсёды, з нагоды гэтага сьвята атрымоўвае многа лістоў і прывітаньняў. Ня час чытаць усе гэтыя лісты, але я ўспомню тут арганізацыі, якія нас вітаюць: Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі, Каардынацыйны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Канадзе, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў у Чыкага, Беларуская Цэнтральная Рада, а так-жа аддзелы БАЗА з розных гарадоў Злучаных Штатаў.

На заканчэньне я хачу ўспомніць, што сярод нас тут ёсьць наш сябра, які закончыў нядаўна 91 год жыцьця і які ніколі не прапусьціў угодкаў нашага сьвяткаваньня, а гэта — сп. Ліхач, якога я і вітаю з гэтай трыбуны.

Сп. Шукелойць заклікаў прысутных скласьці, як гэта традыцыйна робіцца на сакавіковым сьвяце, грашовую ахвяру на газэту «Беларус».

**ЮРАСЬ БЕЛЕНЬКІ**
**Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь!**

Шаноўныя Спадарыні й Спадары! Сябры!

Я хачу павіншаваць усіх вас зь 75-мі ўгодкамі найвялікшага нашага сьвята, хачу павіншаваць вас ад нашай Бацькаўшчыны. Маю гонар зачытаць віншаваньне ад Грамадзкага Камітэту, які быў створаны з гэтай нагоды на Беларусі.

Суграмадзяне й суродзічы!

Набліжаецца вялікае сьвята 25 Сакавіка — Дзень Волі.

Дзяржаўнае станаўленьне кожнага народу мае грунтам гістарычную памяць, еднасьць, дарагія сэрцу патрыёта сымбалі. Для нас, беларусаў, дзень 25 Сакавіка — гэта і ўвасабленьне гістарычнай памяці пра дзяржаву, і паяднальны сьветач, і найгалоўнейшае сьвята.

## ПАЧЫНАЛЬНІКІ БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭНЬНЯ




*Помнік братом Івану й Антону Луцкевічам на віленскім могільніку Росы. Урачыстасьць высьвячэньня адбылася 27 сакавіка сёлета.*

Нездарма гэтак зацята аспрэчвае камуністычная бальшыня Вярхоўнага Савету прапанову абвясьціць дзень 25 Сакавіка дзяржаўным сьвятам. Бо для ворагаў беларушчыны гэты дзень быў і застаецца вечным сьведчаньем марнасьці іхных спадзевак здушыць, вынішчыць Беларусь і яе народ. Была, ёсьць і вечна будзе Беларуская Дзяржава на мапе Эўропы.

Сёлета семдзесят пяты раз сьведамыя беларусы на Бацькаўшчыне й на чужыне адзначаюць слаўныя сакавіцкія ўгодкі. Мы ганарымся нашымі папярэднікамі — змагарамі за незалежную Беларусь, барацьбітымі супраць чужаземнага панаваньня й камуністычнага рэжыму. Дык будзьма ж годныя іхнае сьветлае памяці, панясём штандар свабоды й незалежнасьці праз нягоды і выпрабаваньні.

Віншуем вас, шаноўныя грамадзяне і нашы суродзічы ў замежжы, зь вялікім Нацыянальным сьвятам. Верым, што яно стане і дзяржаўным і будзе сымбалем нашае незалежнасьці і дабрабыту.

Жыве Беларусь!

**Грамадзкі Камітэт па сьвяткавані 75-х угодкаў БНР**

16 сакавіка 1993 г.
г. Менск

Шаноўныя Спадарыні й Спадары! Правільна казалі прамоўцы пра тое, што толькі настаў ранак нашай дзяржавы. Вельмі-ж ня хоча камуністычная большасьць у нашым Вярхоўным Савеце рабіць рэальныя крокі да нашай незалежнасьці, да нашай незалежнай дзяржавы. Камуністычны ўрад, выбраны ў гэтым Вярхоўным Савеце, гатовы на тое, каб аддаць нашу незалежнасьць у імя сваіх інтарэсаў. Умовы, якія склаліся сёньня на Беларусі такія, што ўрад гатовы пайсьці на эканамічны саюз з Расеяй, гэта значыць скасаваць практычна ўсе нашыя заваёвы ў галіне эканомікі. Яны гатовы пайсьці на адзіную грашовую, крэдытную, фінансавую сыстэму, уніфікаваць падаткавае заканадаўства й мытную прастору. Такі крок, фактычна, азначаў-бы гібель у пачатку станаўленьня нашай дзяржавы. Таму мы на Беларусі, у прыватнасьці Беларускі Народны Фронт, які я маю гонар прадстаўляць тут *(воплескі)*, разгледзелі пытаньне аб маючым адбыцца зьезьдзе беларусаў сьвету, які праводзіць Згуртаваньне «Бацькаўшчына», і прынялі на сваім Сойме наступную заяву. Дазвольце яе зачытаць.

### ЗАЯВА СОЙМУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ» ПРА III ЎСЕБЕЛАРУСКУЮ ПАЛІТЫЧНУЮ КАНФЭРЭНЦЫЮ

Сойм БНФ «Адраджэньне» ацэньвае палітычную сытуацыю ў краіне як санкцыянаваны ўладамі наступ камуністычнае антынезалежніцкае рэакцыі. Сойм пацьвярджае немагчымасьць удзелу БНФ у арганізацыі ды правядзеньні ў гэтых умовах зьезду беларусаў сьвету, бо такі зьезд, паколькі за яго арганізацыю бяруцца пракамуністычныя ўладныя структуры, будзе выкарыстаны імі ў сваіх інтарэсах.

Сойм БНФ падтрымлівае прапанову Выканкаму БСДГ аб ладжаньні ўлетку 1993 г. III Ўсебеларускае Палітычнае Канфэрэнцыі, у якой узялі б удзел прадстаўнікі беларускіх дэмакратычных сілаў Бацькаўшчыны й замежжа. У гісторыі дэмакратычнага руху Беларусі Палітычныя Канфэрэнцыі скліканіся ў нялёгкія, паваротныя для нашага народу часіны. Гэткі ж час прысьпеў і цяпер.

Сойм прапануе вынесьці на абмеркаваньне III Ўсебеларускае Палітычнае Канфэрэнцыі галоўнае пытаньне: лёс незалежнасьці Беларусі й дэмакратычных пераўтварэньняў у нашай краіне. Разам зь іншымі беларускімі дэмакратычнымі сіламі Беларускі Народны Фронт удзельнічае ў падрыхтоўцы й правядзеньні Канфэрэнцыі.

13 сакавіка 1993 г.
г. Менск

На завяршэньне свае прамовы яшчэ раз хачу павіншаваць вас са сьвятам, і менавіта са сьвятам ад імя Беларускага Народнага Фронту.

Жыве Беларусь!

### ТАЦЬЦЯНА ГАРАНСКАЯ
**Госьця зь Беларусі**

Паважаныя Спадарыні! Паважаныя Спадары! Дарагія мае Суайчыньнікі!

Дазвольце мне перадаць Вам прывітаньне і шчырыя віншаваньні з цудоўным сьвятам ад дэмакратычна настроенае нацыянальна сьвядомай моладзі Рэспублікі Беларусь. Але як ні сумна, я вымушана сказаць, што наша рэспубліка ў небясьпецы. Небясьпека ня толькі ў Маскве, небясьпека на Беларусі таму, што сёньня паднялі галовы камуністы. Яны пагражаюць нам на вуліцах. Яны хапаюць нас за рукі і кажуць: мы вас зьнішчым. І гэта ня толькі небясьпека для беларусаў, гэта небясьпека для ўсяго сьвету. Я заклікаю вас: памятайце пра гэта кожны дзень, пакуль Беларусь не здабудзе сапраўдную незалежнасьць.

Але пры ўсім гэтым моладзь Беларусі аптымістычна глядзіць на будучыню. Мы верым, што хутка набудзем сапраўдную незалежнасьць. Для гэтага на Беларусі ўсё: разумная моладзь, мудрая дыяспара і наша вера.

Асабіста я таксама стараюся пакласьці свае сілы на добрае, на будучыню Беларусі. Разам з маім мужам пад Менскам мы будуем прыватны, першы на Беларусі гісторыка-культурны комплекс «Гарыслава» ў гонар прыгажуні, славутай Рагнеды *(гл. «Беларус» № 396)*. І мы спадзяемся, што ў 1995 годзе наш комплекс пачне працаваць. Там будзе ўсё створана для нашых суайчыньнікаў, якія прыедуць на Радзіму. Будзе гатэль, будзе рэстаран, будуць музэі. І вы заўсёды зможаце знайсьці ў нас прытулак і самае цёплае прывітаньне, сустрэчы, і ўсё ў нас будзе па-беларуску, чаго няма ў іншых гатэлях і комплексах. Дзякую вам за ўвагу. Самыя найлепшыя пажаданьні на будучыню!

Жыве Беларусь!

### САЎТ-РЫВЭР, Н.-ДЖ.

Сьвяткаваньне 75-х угодкаў БНР было наладжанае Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі і адбылося ў нядзелю 21-га сакавіка. Пасьля сьв. Літургіі й малебну за Беларускі Народ у царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, у прасторнай залі Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру прайшла акадэмія. На ўрачыстасьць прыбылі госьці: мэр гор. Саўт-Рывэру Томас Тото і трое сяброў гарадзкой управы. Напярэдадні сьвяткаваньня ля будынку гарадзкое ўправы, у прысутнасьці ўсіх сяброў управы і дэлегацыі ад беларускага грамадзтва, быў узьняты бел-чырвона-белы сьцяг.

Акадэмію адкрыў сп. Міхась Бахар. Прагучэў амэрыканскі гімн. Сп. Бахар зрабіў па-ангельску агляд гістарычнага шляху Беларусі да незалежнасьці, назваў некаторыя дасягненьні на гэтым шляху ды праблемы, перад якімі цяпер стаіць рэспубліка.

З дакладам па-беларуску выступіў Старшыня БККА сп. Расьціслаў Завістовіч. Перад рэспублікай, сказаў ён, стаіць цяжкое заданьне правесьці патрэбныя эканамічныя рэформы, але рэформы гэтыя могуць адбыцца толькі ў палітычна здаровай атмасфэры, якое, на жаль, у Беларусі яшчэ няма. Сп. Завістовіч гаварыў пра важнасьць абароны роднае мовы, каб адбылося трывалае нацыянальнае адраджэньне. Ён выказаў перакананьне, што 25 Сакавіка будзе некалі сьвяткавацца ў вольнай Беларусі, як нацыянальнае сьвята.

Мэр Саўт-Рывэру Томас Тото прачытаў сваю праклямацыю дня Беларускай Незалежнасьці і сказаў, што сваю школьную веду пра розныя народы сьвету ён плённа ўзбагаціў ведамі пра культуру Беларусі праз асабістае знаёмства зь беларусамі, цудоўнымі й працавітымі людзьмі. Паўміліёна амэрыканцаў беларускага паходжаньня, сказаў сп. Тото, удзячныя Прэзыдэнту Джорджу Бушу за тое, што ён прызнаў незалежнасьць Рэспублікі Беларусь.

З прывітаньнем ад галоўнае ўправы БАЗА і рэдакцыі газэты «Беларус» выступіў др. Янка Запруднік.

Сп. М. Бахар прачытаў прывітаньне ад шматлікіх беларускіх арганізацыяў.

У мастацкай частцы праграмы выступілі паэт Янка Золак із сваймі вершамі, Пётра Нядзьвецкі зь песьнямі пад акардыён, а Пётра Скепка зь песьнямі пад акампанімэнт на сынтэтычным пульце.

Акадэмія закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. Для ўдзельнікаў урачыстасьці арганізатары сьвяткаваньня падрыхтавалі пачастунак, які быў прыемным завяршэньнем гістарычнага дня.

### РЫЧМАНД-ГІЛ, Н.-Ё.

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку ладзіла 75-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР у нядзелю 4-га красавіка. Сьвяткаваньне пачалося багаслужбай, якую адправіў а. Грэгары з прыслугаю. Хорам кіраваў сп. Сымон Жамойда. Людзей у царкве сабралася многа, бо-ж і перад Вялікаднем.

У часе малебну за Беларускі Народ два сьцяганосцы стаялі зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі. Мы маліліся за «нашу Праўду», каб яна адужала ды сталася праводнай ідэяй для роднае Беларусі. Малельнкі прасілі Бога паслаць нашаму народу шмат сілы й разумных пастановаў на ўмацаваньне незалежнасьці й дабрабыту. Шчыра й прачула прагучэлі прагалошанае Беларускаму Народу «Многае лета» і гімн-малітва «Магутны Божа».

Пасьля багаслужбы адбылася акадэмія ў прыцаркоўнай залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру. Урачыстасьць адкрыў сп. Кастусь Мерляк амэрыканскім гімнам. Сп-ня Вера Бартуль прачытала праклямацыю мэра гораду Нью-Ёрку Дэйвіда Дынкінса, выданую да юбілею БНР.

З рэфэратам на тэму дня выступіў др. Вітаўт Кіпель (урыўкі з дакладу гл. у іншым месцы гэтага нумару).

Сп. Мерляк прачытаў зварот да беларусаў Старшыні Сойму БНФ Зянона Пазьняка. У сваіх выступленьнях Пасол РБ пры ААН Генадзь Бураўкін і Старшыня БАЗА Антон Шукелайць гаварылі пра беларускую дзяржаўнасьць, а Пасол РБ у Нью-Ёрку Леанід Каравайка — пра фармальнасьці падарожжа на Беларусь.

Сп. К. Мерляк зачытаў прысланыя прывітаньні і, ацэньваючы сучаснае палажэньне на Беларусі, сказаў, што сёньняшняя незалежнасьць Беларусі яшчэ хісткая. Ён заклікаў працаваць на адраджэньне і выказаць ахвярнасьць, каб дапамагчы нашаму народу адрадзіць сваю дзяржаўнасьць.

Урачыстасьць закончылася гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

У часе застольля абменьваліся навінамі зь Беларусі ды меркаваньнямі пра сёлетняе падарожжа на Бацькаўшчыну. Асобна прадаваліся беларускія выданьні. Быў добры абед, прыгатаваны нашымі спадарынямі, цёплая беларуская атмасфэра.

Да наступнага спатканьня на Беларусі.

**Васіль Шчэцька**

# У МЕНСК ЗЬ ЛЮБОЎЮ

*(Заканчэньне з папярэдняга нумару)*

**Канцэрт і гутаркі**

Вярнуўшыся ў Менск, мы мелі толькі часу, каб перапрануцца. Шэран Мор была правеўшы ўжо свае сустрэчы, і неўзабаве мы падаліся праз вуліцу ад нашага гатэлю ў рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў, дзе меўся адбыцца канцэрт у наш гонар. Пры ўваходзе нас сустрэла Алёна Дзьмітрыева, дырэктар палацу, і сп-чна Ніна Казюкіна. Нас правялі ў вялікую залю, дзе мы пабачылі больш за сотню моладзі ў нацыянальных касьцюмах. Гэта былі дзьве групы: «Дзеці сьвету» і «Зорачка». Чысьцейшай прыемнасьцяй вечару сталіся нам песьні, танцы й музыка. Пасьля выступленьняў «Дзяцей сьвету», «Зорачкі» і сымфанічнага аркестру Цэнтру дзіцячай творчасьці адбылося прыняцьцё са смачнай ежай і ў прыемнай кампаніі. Была нагода пагаварыць са шмат кім з рэспубліканскага Палацу піянераў і школьнікаў, гэткімі, як Уладзімір Быкаў, дырыжор аркестру, мастацкімі кіраўнікамі Нінай Казюкінай, а таксама Ўладзімірам Глушаковым, які запрасіў нас на канцэрт музыкі, што меўся адбыцца колькі дзён пазьней. Нас распытвалі пра жыцьцё беларусаў у Амэрыцы, пра цэрквы, арганізацыі, грамадзкую дзейнасьць. Нашыя суразмоўнікі дзівіліся, што мы гутарылі па-беларуску, хоць выраслі ў Злучаных Штатах. Яны яшчэ больш зьдзівіліся, калі мы ім сказалі, што мы таксама перадалі сваім дзецям беларускую мову й традыцыі. Уся сустрэча прайшла цудоўна і трывала ладна за поўнач.



*Прывезеныя мэдыкамэнты й мэдычныя прылады надзейна разьмешчаныя ў менскім складзе.*

**Перапоўненыя дзецьмі шпіталі**

Наступны дзень быў таксама запоўнены праграмай. Уранні мы наведалі дыягнастычны цэнтар, дзе правяралі дзяцей, найбольш з Гомеля, Мазыра ды іншых забруджаных радыяцыяй раёнаў. Пасьля агляду, дзяцей адсылалі на лячэньне ў адпаведныя шпіталі. Калідоры былі перапоўненыя мацяркамі з малымі дзецьмі (пачакальняў там ня было) і ўсе сядзелі на лаўках, калі каму пашанцавала, або проста стаялі ў слаба асьветленых калідорах, у якіх ня было месца, каб прайсьці.

Мы гутарылі са шмат якімі дактарамі, уключна з групай лекараў з Кітаю, якія памагалі дыягназаваць вялікі наплыў пацыентаў. Мы ставілі многім тое самае пытаньне: «Ці расьце лік выпадкаў захворваньня на рака і іншыя хваробы, зьвязаныя з радыяцыяй?» Я паясьняў, што ў Злучаных Штатах мы чытаем самыя розныя паведамленьні аб тым, ці стан на Беларусі горшы, як прадбачылася, ці не. Усе дактары, што прабылі там па колькі гадоў, казалі, што сярод агледжаных імі дзяцей назіраецца павялічэньне выпадкаў раку шчытавіднае залозы, запаленьня, пасьлабленьня імунітэтнае сыстэмы, а таксама рост выпадкаў хразамозмнай абэрацыі і іншых анамаліяў. Адзін доктар, які прабыў там больш за шэсьць гадоў, сказаў: «У мяне няма агульные статыстыкі, але я бачу значны ўзрост захворваньняў, што звычайна спалучана з радыяцыяй, і, кажучы адкрыта, я ня бачу будучыні гэтым дзецям». І хуценька дадаў: «Пры вашай дапамозе, можа, мы здолеем лепш справіцца».



*Зь дзецьмі ў менскім клінічным шпіталі. Справа стаіць др. Кацярына Чарнок.*

Папаўдні мы наведалі анкалягічны шпіталь, дзе сустрэлі праф. Эдварда Жаўрыда, кіраўніка аддзелу хімарадыятэрапіі Інстытуту анкалёгіі, мэдычнае радыялёгіі. Ён наракаў, што не хапае ні прафэсійных кадраў ні мэдыкамэнтаў. Др. Жаўрыд зазначыў: «Толькі дзякуючы дапамозе з-за мяжы, мы можам дапамагчы гэтым дзецям». Іншы лекар сказаў, што шпіталю вельмі патрэбныя розныя мэдыкамэнты, такія як антыбіётыкі, і нават простыя рэчы, такія як вітаміны, дзякуючы якім у дзяцей узмацняецца адпорнасьць на звычайныя заражэньні.

Шпіталь быў да скрайнасьці перапоўнены: у некаторых палатах знаходзілася па 12 дзяцей і па тры або чатыры мацяркі, якія заставаліся із сваімі малымі (да трох гадоў) дзеткамі. Ніякіх пакояў для адпачынку ці забавы; дзеці, што не ляжалі ў ложках, хадзілі проста па калідоры.

Таго вечару мы цешыліся мы ні абедам, ні сном уначы.

Назаўтрае нам сказалі, што чатыры кантэйнэры з мэдыкамэнтамі прыбылі ў Менск і стаяць на пляцы Незалежнасьці. Мы селі ў аўтамабіль і паехалі агледзець пячаткі на кантэйнэрах ды сфатаграфаваць груз.

Пасьля мы наведалі яшчэ два шпіталі: Дзіцячы гэматалягічны шпіталь № 1 і Дзіцячы клінічны шпіталь № 2. Вонкавы выгляд у гэтых шпіталёў быў крыху лепшы. Яны былі сьвятлейшыя і ня так перапоўненыя, хоць і тут нам сказалі, што нястача мэдыкамэнтаў адчуваецца вельмі востра.



*Сп-ня Шэран Мор з Сашам, які неўзабаве пакіне шпіталь і шансы якога выжыць былі невялікія, пакуль Сітыгоўп не пачала завозіць мэдыкамэнты. Сашу неўзабаве адпусьцяць са шпіталя з адноўленым здароўем.*

**Надзейны склад. Абед з усьмешкай**

Наступнага дня мы паехалі ў склад, дзе былі зьмешчаныя мэдыкамэнты й мэдычныя прылады, што прыбылі ўчора. Склад выглядаў вельмі надзейна. Нам давялося выпаўніць фармуляры і прайсьці паўз вартаўнікоў, каб трапіць на тэрыторыю складу. Тут мы папрыклейвалі налепкі з зазначэньнем донара мэдыкамэнтаў (БАПЦ) і паклалі на грузавічок крыху з прывезенага, каб узяць з сабой у наступны шпіталь, які мы меліся наведаць таго-ж дня. Працаўнікі складу ўвіхаліся распарцылёўваць груз для адпраўкі яго ў розныя шпіталі, у якіх мы пабывалі.

Увечары нас запрасіў на абед сп. Міхась Собаль, заступнік загадчыка аддзелу гуманітарнай дапамогі, якая паступае на ўрад рэспублікі. На абедзе былі таксама сп-ня Шэран Мор, Ірына і Мікалай Грыцэнкі (Ірына, маладая асоба, была нашым гідам і перакладчыцай; з усіх, каго мы зь Нінай сустрэлі, у яе былі найбольш станоўчыя адносіны да рэальнасьці. Яна ўсё рабіла з усьмешкай і сказала: «Калі ўсьміхаешся, усе навокала цябе ўсьміхаюцца і жыцьцё становіцца больш цікавым. Мы зь Нінай называлі яе «нашай Ірачкай».).

**Хатынь і Курапаты**

Сыбота была яшчэ адным вельмі занятым днём. Уранні мы паехалі ў менскую Музычную кансэрваторыю, дзе адбыўся канцэрт рэлігійных сьпеваў у выкананьні хору з 30 студэнтаў кансэрваторыі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Глушакова. Песьні гучалі выдатна ў выкананьні студэнтаў, што самі будуць некалі хормайстрамі. Пасьля канцэрту мы наведалі Хатынь і Курапаты — два помнікі, што нагадваюць пра вялікія страты беларускага народу ад двух супрацьлежных таталітарных рэжымаў — фашызму й камунізму.

**Аўтарытэт царкоўнага старасты сп. Макарчыка**

У нядзелю ўранні Шэран, Ірына, Ніна і я былі на багаслужбе ў Сьвятадухаўскім катэдральным саборы. Мы прыехалі каля 9-й гадзіны, калі служба была ўжо пачаўшыся. Царква была поўная народу і мы думалі, што ўсярэдзіну зайсьці нам ня ўдасца. Праз Ірыну мы пазнаёміліся з царкоўным старастам Іванам Макарчыкам. Ён сказаў нам, што папярэдняга дня вярнуўся Мітрапаліт Філарэт і што ён будзе служыць. Сп. Макарчык сказаў нам пачакаць, пакуль ён правядзе Ўладыку Філарэта і тады паможа нам зайсьці ў царкву, каб лепш пабачыць багаслужбу. Па колькіх хвілінах паказалася працэсія на чале са старастам, за якім ішлі мітрапалічыя прыслужнікі, а за імі сам Мітрапаліт. Пасьля вітаньня Мітрапаліта ля ўваходу ў царкву традыцыйнымі хлебам-сольлю яны ўсе ўвайшлі ў сьвятыню, а за імі мора вернікаў. Я падумаў сабе: «Нават і староста не дапамог нам трапіць у царкву». Але неўзабаве зьявіўся сп. Макарчык і з усьмешкай сказаў: «Я дамовіўся на аўдыенцыю для вас у Ўладыкі сёньня папаўдні а 4-й. А цяпер хадзеце за мной». Я сказаў яму, што можа ці варта заходзіць на гадзіну, бо ў нас заплянаванае інтэрв'ю з радыякарэспандэнтам у гатэлі за нейкіх паўтары гадзіны. Староста адказаў, што гэта не праблема, за гадзіну ён нас выведзе з царквы. І мы хутка пайшлі за ім праз, здавалася-б, непрабіўную сьцяну людзей. На нашае зьдзіўленьне, сьцяна на загад старасты расступілася і мы змаглі праціснуцца празь яе, ідучы за ім аж на самы перад сабору. Як відаць было, стараста быў тут аўтарытэтам. Як і паабяцаў, за гадзіну ён зьявіўся ізноў і сказаў: «Ваш час. Калі ласка, ідзеце за мной». Вонках сабору стараста даў нам мяшэчак з ладанам і сказаў, што гэта падарунак для нашай царквы ў Амэрыцы. Мы падзякавалі яму за дапамогу і пасьпяшаліся да аўтамабіля, каб не спазьніцца на наша інтэрв'ю.

**Наведаньне Мітрапаліта**

Да мітрапалічае рэзыдэнцыі мы прыехалі пару хвілін перад чацьвертай. Нас сустрэў у ўваходу мітрапалітаў сакратар, зь якім мы абмяняліся колькімі словамі і які нас павёў азнаёміцца з будынкам. Падарозе ён нам паказваў розныя абразы на сьценах калідораў і ў пакоях, завёў у прыватную капліцу Мітрапаліта з прыгожым іканастасам. Абыйшоўшы памешканьне, мы прыйшлі ў гасьцёўню, дзе нас вітаў Уладыка Філарэт. У часе пачастунку чаем Мітрапаліт расказваў нам пра царкву ў Беларусі. Ён сказаў, што рэлігія вельмі хутка ажывае, усюды па Беларусі аднаўляюцца або будуюцца цэрквы.

Мы паінфармавалі Мітрапаліта пра мэту нашага прыезду, пра мэдыкамэнты й мэдычныя прылады прывезеныя для ахвяраў чарнобыльскае катастрофы праз арганізацыю Сітыгоўп, узначальваную сьвятаром Полам Морам і сп-няй Шэран Мор. Згодна з ранейшай просьбай сп-ні Мор, я папрасіў Мітрапаліта Філарэта, ці не напісаў бы ён рэкамэндацыйнага ліста да гарадзкіх уладаў, каб яны паспрыялі рэгістрацыі Сітыгоўп як гуманітарнае арганізацыі ў Беларусі. Шэран Мор паясніла нам, наколькі гэта аблегчыць

фармальнасьці разьмеркаваньня дапамогі ў Беларусі. Мітрапаліт згадзіўся падпісаць гэткі ліст, калі яму такія дакумэнты пададуць за колькі дзён. Мы падзякавалі Ўладыку за гасьцінасьць, ягоную дапамогу ды вярнуліся ў гатэль, дзе адбылося яшчэ адно інтэрв'ю для мясцовае газэты.

Мы не агледзеліся, як самалёт вёз ужо нас дамоў. Даўгое падарожжа дало ўдосталь часу на роздум аб падзеях прамінулага тыдня, каб усьведаміць сабе, наколькі павязло нам у Амэрыцы, і як добра адчуваць, што мы маем магчымасьць дапамагчы людзям, якія так конча патрабуюць дапамогі. Мы ўжо плянуем яшчэ адзін завоз мэдыкамэнтаў і мэдычных прыладаў на Беларусь недзе ў наступным годзе.

**Аляксандар Сільвановіч.**

*Пераклад з ангельскае Янкі Запрудніка.*

# 40-ГОДЗЬДЗЕ РАДЫЁ «СВАБОДА»

У сакавіку сёлета радыёстанцыя «Свабода» адзначыла сваё 40-годзьдзе. Працаўнікоў Беларускай рэдакцыі РС віталі ўдзячныя слухачы й прыхільнікі. Старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч перадаў праз свайго сакратара сп. Сьцяпуру прывітаньні Беларускай рэдакцыі і падтрымку ў справе «інфармацыі аб адраджэньні, гісторыі, культуры Беларусі, аб адраджэньні Беларусі ў цэлым».

Беларуская рэдакцыя РС атрымала таксама зьмешчаныя ніжэй прывітальныя пасланьні.

---

*Зь вялікай радасьцю віншую беларускую «Свабоду» з нагоды яе юбілею. Дарагія працаўнікі «Свабоды», вы можаце ганарыцца тым, што робіце і што зрабілі за ўсе гэтыя гады дзеля ўсталяваньня свабоды і справядлівасьці на нашай няшчаснай Бацькаўшчыне, дзе ўсё яшчэ спраўляе свой баль нэндза і гвалт, але і зьявілася спадзяваньне на лепшае, якое вы набліжаеце разам зь беларускім народам.*

*Дзякуй вам, дай вам Бог шчасьця!*

*На Беларусі вас любяць, вераць вам і віншуюць.*

*З павагай і найлепшымі зычэньнямі*

**Васіль Быкаў**

Сакавік 1993 г.
Менск

---

*Паважаная рэдакцыя радыёстацыі «Свабода».*

*Віншуем Вас з саракагодзьдзем з дня заснаваньня!*

*Выказваем падтрымку Вашай асьветніцкай і інфармацыйнай дзейнасьці, якая зьяўляецца для жыхароў падкамуністычнай Беларусі жывой крыніцай апэратыўных зьвестак пра сапраўдныя падзеі ў сьвеце і ў нашай краіне, дзе асноўныя сродкі масавай інфармацыі манапалізаваныя намэнклатурным урадам.*

*Разам з тым у нас выклікае зьдзіўленьне, што якраз цяпер, калі ў Беларусі і іншых краінах Усходняй Эўропы, адбываецца рэстаўрацыя КПСС, паварот да таталітарызму і дыктатуры, наступ на правы чалавека і свабоду слова, якраз цяпер прымаецца рашэньне пра закрыцьцё радыёстанцыі «Свабода», якраз цяпер, калі яе перадачы патрэбныя на Беларусі і, несумняваемся, на Украіне і Расеі. На ўсходзе можа вырасьці монстр, страшнейшы за СССР.*

*Маем надзею, што гэтае бязумоўна памылковае рашэньне будзе перагледжана. Жадаем радыёстанцыі «Свабода» і ў прыватнасьці яе беларускай рэдакцыі творчых посьпехаў у працы, дзеля праўдзівай інфармацыі, свабоды і справядлівасьці.*

**Зянон Пазьняк,
Старшыня Беларускага Народнага Фронту,
Старшыня Апазыцыі БНФ у Вярхоўным,
Савеце Рэспублікі Беларусь**

10 сакавіка 1993 г.
г. Менск.

*Шаноўны сябры!*

*Рада Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі віншуе вас з 40-годзьдзем плённай дзейнасьці Радыё «Свабода» дзеля свабоды і дэмакратыі.*

*Доўгія гады для нас ваш голас быў амаль што адзінай магчымасьцю пачуць праўду аб тым, што адбываецца ў краіне і сьвеце. Вашы перадачы аказалі вялізарны ўплыў на фармаваньне поглядаў многіх грамадзян Беларусі, у тым ліку і сяброў нашай партыі.*

*Многае зьмянілася з той пары, але Радыё «Свабода» засталося для нас надзейнай крыніцай аб'ектыўнай інфармацыі. Вам, бязумоўна, вядома, што нам на Беларусі яшчэ вельмі далёка да сапраўднай свабоды слова, а ў апошні час кіруючая намэнклатура ўсё больш узмацняе націск на прэсу.*

*Нельга не прыгадаць, як у жніўні 1991 г. інфармацыя Радыё «Свабода» дапамагала дэмакратычным сілам Беларусі ў барацьбе супраць таталітарна-імпэрскай хунты.*

*Віншуем яшчэ раз ад імя ўсіх сяброў ДАПБ, няхай будзе пасьпяховай ваша вельмі патрэбная ўсім нам праца на карысьць дэмакратыі і свабоды.*

*Па даручэньню Рады АДПБ*

**А. Дабравольскі,
Старшыня АДПБ**

---

*Ад шчырага сэрца віншую радыёстанцыю «Свабода» з 40-гадовым юбілеем.*

*Узрост мудрасьці, сілы, зьвяршэньня спадзяваньняў — 40 гадоў. Радыёстанцыя «Свабода» — гэта нашае слыхавое вакно ў Эўропу, у вольны сьвет.*

*Яшчэ ня хутка на Бацькаўшчыне нашай запануе дэмакратыя і воля. Позірк здалёку, позірк збоку, позірк сэрца — ён патрэбны, бо пільны і амаль заўсягды правільны.*

*Некалі нясьмела, а цяпер штогод сьмялей і сьмялей гучыць «Свабода» і даходзіць да душы беларускае. І як у застольнае песьні, хочацца пажадаць беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода», усім шматмоўным рэдакцыям СТО год, СТО год хай чуюць, чуюць Вас.*

*Гучы «Свабода», гукай да яшчэ далёкай сапраўднай Волі.*

**Ад імя беларускага ПЭН-Цэнтру
Прэзыдэнт Рыгор Барадулін**

---

*Радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная» шчыра віншуе калегаў з радыё «Свабода» з нагоды 40-гадовага юбілею і мае спадзеў наладзіць творчае сяброўскае спабоowніцтва ў справе асягненьня беларускай журналістыкай сапраўднае незалежнасьці думкі. Посьпехаў і далейшага росту папулярнасьці!*

**Калектыў журналістаў
р/ст. «Беларуская маладзёжная»
Рэспубліканскага Радыё**

# БАРАНАВІЦКАЯ МАЛАЧАРНЯ

**Да гісторыі каапэратыўнага руху ў Заходняй Беларусі і беларуска-польскіх дачыненьняў. Інтэрв'ю зь Пятром Орсам.**

*(Заканчэньне. Пачатак у № 399)*

**Янка Запруднік:** Ці Вы мелі малачарню ў Міры?

**Пётр Орса:** Так, у 1935 ці 36-м годзе ў Міры была ў нас малачарня. Але пасьля яна, здаецца, зьліквідавалася.

**З.:** А што сталася з Вашым прадпрыемствам, калі ў 1938 годзе Вы змушаныя былі далучыцца да варшаўскае каапэрацыі?

**З.:** І гэта што — прыйшоў загад?

**О.:** Загад прыйшоў зь Міністэрства асьветы, і ўсё — мусілі ехаць. Калі ў 1939 годзе прыйшлі бальшавікі, то Аляксандр на конях прыехаў з Кельцаў у Баранавічы.

**З.:** Чым тлумачылася высылка?

**О.:** Не хацелі палякі, каб беларускае было што-небудзь.



*Управа баранавіцкага Каапэратыўна-малачарскага таварыства ў 1936 годзе. У першым радзе сядзяць (зьлева): Мікуліч, Ніна Орса, Кумэйша, Пётр Орса (дырэктар), Хоміч, Саўка. У другім радзе стаяць: (другая зьлева) Таня Лукашык за ёю — Федзя Кучура. Іншых трох прозьвішчы не запамяталіся.*

**О.:** Мяне перакінулі ў Ліду. Я там жыў і быў падпарадкаваны варшаўскай цэнтралі.

**З.:** То 1938 год трэба лічыць канцом Вашага каапэратыву?

**О.:** Так.

**З.:** Каго Вы ведаеце яшчэ ў Заходняй Беларусі з былых праскіх студэнтаў? Што сталася зь Гірысам?

**О.:** Яму аддалі бацькаву хату ў Любчы і ён там жыў на сваёй гаспадарцы. У яго быў багаты бацька. Яны цэлы маёнтак мелі.

Былі яшчэ з Прагі Шавейка, Гузоўскі, Лаўскі, Карповіч. Гэта ўсё студэнты зь лясьнічага факультэту.

**З.:** А чым яны займаліся?

**О.:** Лаўскі меў мельніцу, жыў багата, недзе ў Лідзкім павеце.

**З.:** А Мікалай Гарошка?

**О.:** Ён таксама быў «лясьніком». Вярнуўшыся з Прагі, ён узяў маёнтак у арэнду ў Навагрудзкім павеце і прабыў там два гады.

**З.:** І чым ён там займаўся?

**О.:** Вырабляў сыры. Меў кароў з трыццаць, мусіць.

**З.:** Калі гаварыць пра ўсіх беларускіх студэнтаў у Празе, на якія прафэсіі яны спэцыялізаваліся?

**О.:** Малочніцтва, лясьніцтва, мэдыцына, электраінжынерыя, будаўніцтва, у тым ліку дарожнае.

**З.:** А як з гуманістычнымі кірункамі? Быў хто-небудзь на праве?

**О.:** На праве ня было нікога. Але былі на моваведзе: Янка Станкевіч, Натальля Сазановіч, будучая жонка майго брата Аляксандра. Аляксандар быў на прыродаведзе, зрабіў дактарат.

**З.:** Вы казалі, што Аляксандра Орсу выслалі. У якім годзе, адкуль і куды?

**О.:** Яго выслалі з Навагрудка, калі зьліквідавалі там у 1936 годзе Беларускую гімназію. Тады Аляксандра выкінулі, а таксама Бітуса, у цэнтральную Польшчу. Далі ім там па спэцыяльнасьці работу. Аляксандар там у гімназіі выкладаў.

**З.:** То гэта была свайго роду высылка — так як і расейцы ў Сібір высылалі.

**О.:** І яшчэ ў які час! Зімою ў студзені месяцы, такі мароз трашчаў. З малымі дзецьмі...

**З.:** І ніякія пратэсты не памагалі?

**О.:** Не-не, нічога. Выслалі таксама Цеханоўскага.

**З.:** Варочаючыся да каапэрацыі. Людзі сае гарнуліся да яе?

**О.:** О, так. Былі вельмі талковыя арганізатары. Быў такі Кумэйша — унівэрсальны чалавек. Ён усё рабіў: і будаваў, і прадаваў, і купляў. Паходзіў ён зь вёскі Вялікае Падлесьсе, што ў Ляхавіцкім раёне. Людзі былі добрыя, шанавалі нас. Гутарыў я зь людзьмі толькі па-беларуску. Усё гэта палякам не падабалася.

**З.:** Якія былі Вашы заработкі ў баранавіцкім малачарным каапэратыве?

**О.:** Малачарскі ўрад выплачваў мне сто злотаў на месяц і адзін працэнт ад абароту. Абарот спачатку быў слабы, але з кожны годам рос.

**З.:** Калі-б палякі не перашкаджалі, то Вы маглі-б разьвіць свой каапэратыў?

**О.:** Ясна, што так.

**З.:** Ці вы бралі якія-небудзь пазыкі з польскага банку?

**О.:** Ня лёгка было з пазыкай, бо адказнасьць нашая была толькі паямі. Банк, магчыма, і даў-бы пазыку, але ня многа.

Дарэчы, каапэратывы малачарскія былі ў нас спалучаныя з каапэратывамі спажывецкімі. Калі людзі прывозілі, скажам, сыры, дык назад вязьлі тавар, патрэбны пайшчыкам.

**З.:** Але пра спажывецкія каапэратывы нельга сказаць, што гэта былі беларускія прадпрыёмствы?

**О.:** Гэта былі прадпрыемствы польскія, але нашыя людзі належалі да іх.

**З.:** А ці было якое-небудзь культурнае беларускае жыцьцё ў Баранавічах за Вашымі часамі?

**Сп-ня Ніна Орса:** Быў тэатральны гурток. І кіраваў Шах. Заўсёды на Вадохрышча ставілі паказы.

**З.:** Ці ў Вас была якая сувязь зь Вільняю?

**О.:** Часам заяжджаў хто-небудзь, але арганізацыйнай сувязі ня было. Беларускасьці надта такой ня было шмат у нас. Ішло эканамічнае жыцьцё і канец на гэтым. Палітыкай мы не займаліся, бо за намі палякі сачылі.

**СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ**

## ДОКТАР АРКАДЗЬ АРЭХВА

нарадзіўся 1 травеня 1910 г., адыйшоў у вечнасьць 27 лютага 1993 г.
Пакінуў ў глыбокім смутку жонку Ольгу, сыноў Юрыя і Васіля,
іх жонак і унукаў.
Вечная яму памяць!

**СЯМ'Я**



## СЬВ. † ПАМ.
## а. ЯН ПЕРКАРСКІ

Пасьля доўгіх год служэньня Богу і беларускаму народу на бацькаўшчыне і на чужыне адыйшоў на вечны супачынак сьвятар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Вялікабрытаніі пратаярэй а. Ян Перкарскі 12 студзеня 1993 году. Аставіў у глыбокім смутку парафіян, матушку Аляксандру і сям'ю.

Нарадзіўся а. Ян у вёсцы Сурынка на Беларусі 12 лістапада 1923 году ў сям'і Даніла й Марыі. Прайшоў цяжкі час эміграцыі і асеў у горадзе Стывэнідж, адкуль і абслугоўваў навакольныя парафіі пакуль пазваляла здароўе. Апошнім часам цяжка хварэў на сэрца.

Паховіны адбыліся 21 студзеня. Цела спачыла на магільніку Альмонд Лэйн у горадзе Стывэнідж.

Вечная памяць.

**Рада БАПЦ у Вялікабрытаніі**

## СЬВ. † ПАМ.
## СЬЦЯПАН ШЫКАЛЮК

**(2.II.1907 — 17.II.1993)**

Хоць і падошлыя гады, аднак неспадзяваная памёр наш суродзіч Сьцяпан Шыкалюк, пражыўшы 86 год і 15 дзён. Быў ён родам зь вёскі Рагадасьць Берасьцейскага павету.

Жыцьцё нябожчыка ня было лёгкім, ад маладых год давялося перанесьці шмат бяды-нявыгады, бо ў 1914 годзе забіраюць ягонага бацьку ў царскую армію, а пяцёра дзяцей і маці вывозяць углыб Расеі. У 1918 годзе ім удалося вярнуцца назад у роднае сяло.

Пасьля падзелу Беларусі ў 1921 г. в. Рагадасьць апынулася пад польскай акупацыяй. У 1927 г. Сьцяпан ажаніўся з Ольгай Калашук і працаваў на гаспадарцы. Пасьля службы ў польскім войску, куды яго паклікалі ў 1928 г., працаваў далей на гаспадарцы. У 1939 г. быў змабілізаваны палякамі, але вайна ня трывала доўга і Сьцяпану ўдалося вярнуцца да сям'і, у якой было ўжо пяцёра дзяцей і клопатаў хапала. Пасьля прыходу немцаў, у 1943 г. усю сям'ю Сьцяпана вывозяць у Нямеччыну на працу. Ізноў дарога ў нязнаны сьвет, трывога ды адказныя бацькоўскія абавязкі. У Нямеччыне сям'і яшчэ пабольшала на двое дзяцей, дык труднасьці ўзрасьлі.

Па сканчэньні вайны, перамагаючы цяжкасьці лягернага быту, у 1950 г. сям'я сьв. пам. Сьцяпана выбрала ехаць у Канаду, у Вынілэг. Тут ізноў — ні кала, ні двара, як наша прыказка кажа. Сьцяпан бярэ молат і сякеру ў рукі і робіцца столярам-будаўніком: будуе хаты — для сябе, а потым і на продаж. Жонка Оля і дзеці памагалі, колькі маглі.

Сьв. пам. Сьцяпан Шыкалюк быў працавітым чалавекам, апрача ўсіх справаў браў актыўны ўдзел у грамадзкім і царкоўным жыцьці, займаў розныя становішчы, зь якіх вывязваўся вельмі добра. І таму ў пахавальным доме і ў царкве сабралася, хіба, найбольшая колькасьць людзей, каб аддаць заслужаную пашану. Пасьля малебна ў пахавальным доме прамаўляў сп. Ул. Гуцко, выказаў глыбокія спачуваньні сям'і.

Сьв. пам. С. Шыкалюк пакінуў у смутку жонку Ольгу, трох сыноў — Косьцю, Аляксандра і Яна — чатыры дачкі — Галену, Надзю, Мар'ю, Анну — 17 унукаў і 8 праўнукаў зь іхнымі жонкамі й мужыкамі; сястру ў Канадзе, брата й сястру на Беларусі і многа родных у Польшчы і Амэрыцы ды ў іншых краінах.

Ад імя ўсіх суродзічаў складаем нашы найглыбейшыя спачуваньні жонцы Ользе і сям'і.

А табе, дарагі суродзічу, няхай будзе пухам канадыйская зямелька.

Сьпі пад курганам Гэрояў.

**В. Г.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Б. Рагуля | ам. д. 277 |
| К. Шыкалюк | 100 |
| К. Акула | 50 |
| І. Каханоўская | 50 |
| Л. і У. Брылеўскія (замест кветак на магілу с.п. А. Арэхвы) | 50 |
| В. Ракуць | 50 |
| Н. і Г. Вайтовіч | 50 |
| Б. Стус | 50 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| Я. Шымчык | 35 |
| Я. Юхнавец | 15 |
| Усяго | 777 |

**Папраўка:**
І. Сядура і Ул. Глыбінны 100
(памылкова пададзена 50 д. у № 397)

*Сабрана на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью-Брансьвіку:*

| | |
|---|---|
| В. Заморская | 150 |
| Ул. Набагез | 100 |
| М. і Н. Рагуля | 100 |
| А. і У. Русак | 50 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50 |
| В. Шчэцька | 50 |
| Я. Запруднік | 50 |
| А. Субота | 40 |
| В. Кажан | 40 |
| А. Мацукевіч | 25 |
| Э. Рыжы | 25 |
| С. і Н. Дудар | 25 |
| Ст. Тамара | 25 |
| А. Орса-Рамана | 25 |
| Б. і А. Даніловіч | 25 |
| А. і В. Дубяга | 25 |
| А. Ліхач | 20 |
| В. і Ф. Бартуль | 20 |
| З. Кіпель | 20 |
| Ю. Андрусышына | 20 |
| Л. і Э. Норык | 20 |
| А. Непейн | 20 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| Л. Літаровіч | 20 |
| А. Сямёнава | 20 |
| К. Мерляк | 20 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| В. Андрэюк | 10 |
| Я. Азарка | 10 |
| Альбуцкі | 10 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| А. Шукелайць | 10 |
| М. Тулейка | 10 |
| Я. Каханоўская | 10 |
| А. Кажан | 10 |
| М. Абрамчык | 10 |
| М. і Г. Дубяга | 10 |
| У. Машанскі | 5 |
| О. С. Дубяга | 5 |
| Ананімна | 1 |
| Усяго | 1136 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| У. Машанскі | 30 |
| У. Харавец | 25 |
| А. Сільвановіч | 25 |
| В. Букатка | 25 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| Г. Бахар | 30 |
| Р. Галяк (замест кветак на магілу с.п. А. Арэхвы) | 25 |
| Ю. Рэпэцкі | 30 |
| В. Пашкевіч | 25 |
| А. Даніловіч | 25 |
| Ю. Навумчык | 30 |
| У. Сітнік | 25 |
| П. Талмачэвец | 30 |
| Л. Літаровіч | 30 |
| М. Палюховіч | 25 |
| Л. Высоцкі | 25 |
| В. Цярпіцкі | 25 |
| В. Бельмач | 50 |
| Ю. Касьцюкевіч | 25 |
| Л. Мурог | 30 |
| А. Ліхач | 50 |
| П. Нядзьвецкі (замест кветак на магілу с.п. С. Гутырчыка) | 25 |
| А. Маркевіч | 30 |
| Я. Азарка | 25 |
| В. Тур | 30 |
| А. Дубяга | 30 |
| В. Пашкевіч | 30 |
| Л. Кавалёў | 30 |
| Усяго | 810 |

*Праз нашага прадстаўніка ў Мюнхэне сп. В. Станкевіча:*

| | |
|---|---|
| В. Станкевіч | ням. м. 100 |
| П. Смаршчок | 50 |
| Ю. Сянькоўскі | 100 |
| М. Іваноў | 50 |
| А. Левін | 50 |
| Л. Урбан | 50 |
| К. Бандарук | 50 |
| П. Урбан | 50 |
| В. Фрэйдкін | 50 |
| Усяго | 600 |
| У ам. д. | 362 |

**УВАГА! УВАГА!**

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

*Адміністрацыя*